*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 14(122) ◆ 7 красавіка 1993 г. ◆ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*Васіль СУПРУН*

### СКАЖАМ — НЕ!

*Наша неба цямнее чамусь,*
*А на сэрцы ізноў неспакойна.*
*Над свабодай тваёй, Беларусь,*
*Крумкачы лямантуюць разбойна.*
*Зноў злятаюцца катаў былых*
*Крыважэрныя чорныя зграі*
*І. раз'юшана рэжучы слых,*
*Паграджаюць канцлагерам краю.*
*Ці вы чуеце, **ЛЮДЗІ?!***
*Пара*
*Сказаць слова сваё ўрэшце зброду!*
*Пакуль сёлы ў агні не гараць,*
*Кайданы не надзеты народу!*

**КАМУНІСТЫЧНАЯ БОЛЬШАСЦЬ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ УСЁ ЯШЧЭ ІМКНЕЦЦА АДРАДЗІЦЬ ІМПЕРЫЮ.** Хай не савецкую, дык хоць ваенную і эканамічную. Сама Расія не супраць ваеннага саюза, але пра эканамічны саюз віцэ-прэм'ер Расіі А. Шохін сказаў, што Расія не ставіла пытання аб стварэнні эканамічнага саюза — гэта ініцыятыва Беларусі і Казахстана. Расіі ж удзел у такім саюзе ў прынцыпе нявыгадны. І атрымоўваецца, што з намі не хочуць мецць справу.

◆

***УРАД ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ** наладзіць у Беларусі ў 1993—1996 гадах выпуск больш як 40 назваў сродкаў сельскагаспадарчай вытворчасці, якія раней завозіліся з краін СНД.*

◆

**ПА ЛІТОЎСКІМ ТЭЛЕБАЧАННІ** 25 сакавіка павінна была выйсці ў эфір святочная перадача, якую падрыхтавалі беларускія журналісты да юбілею БНР, але цэнзарам не спадабалася прамова старшыні Таварыства беларускай культуры Хведара Нюнькі і перадачу забаранілі. З эфіру былі зняты і песні ў выкананні Данчыка і тэлеверсія спектакля Галіны Дзягілевай «Выгнанне ў рай» пра жыццё князёўны Рагнеды.

◆

***31 САКАВІКА Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ СВЯТОЧНАЯ ВЕЧАРЫНА,** прысвечаная 40-годдзю часопіса «Маладосць». «Наша слова» шчыра віншуе супрацоўнікаў часопіса з юбілеем і жадае далейшых поспехаў на ніве Адраджэння.*

◆

Чарговая сесія Слуцкага раённага Савета народных дэпутатаў прайшла на беларускай мове. Незадоўга да сесіі мясцовы выканкам абмеркаваў ход выканання Закона аб мовах у Беларусі і прыйшоў да такога рашэння.

◆

***Першыя пішучыя машынкі з беларускім шрыфтам паступяць з Італіі гэтым летам,— паведаміў прадстаўнік фірмы «Тусон».***

***Каб наша родная мова запанавала ў Беларусі паўсюдна і назаўсёды***

стар. 2-3.

***ЧАГО Ж ІМ ТРЭБА?***

стар. 3.

***Беларусізацыі войска патрабуецца забеспячэнне***

стар. 6.

## Беларуская сям'я і савецкая школа. Процістаянне




Чаму так марудна, натужліва і ў мікраскапічных памерах адбываюцца ў Беларусі палітычныя перамены ў бок нацыянальнага Адраджэння, гуманізацыі сістэмы народнай адукацыі, рэфармавання дзейнасці культурна-асветных устаноў і сродкаў масавай інфармацыі? Пытанне гэта задаецца так часта, што становіцца рытарычным ажно да абрыдлівасці. Ці не падманваем мы самі сябе, калі патрабуем ад дзяржаўных чыноўнікаў тых вартасцяў цывілізаванага грамадства, якімі яны ніколі не валодалі? Назавіце мне хаця б пару кіраўнікоў сістэмы камуністычнай адукацыі, якія б крыжам клаліся, абараняючы прыярытэты беларускай школы ў нядаўнім мінулым. Не назавяце, колькі не шукайце, бо такіх не было. Якраз наадварот — чынавенства Міністэрства асветы, вышэйшай, сярэдняй і спецыяльнай адукацыі проста вылузвалася са скуры, каб хутчэй зрусіфікаваць беларускі народ і адрапартаваць сваім камуністычным «паханам» з ЦК КПБ пра выкананне задання. Іхняя ганебная дзейнасць ужо была блізкая да завяршэння. Ды ўсё парушыла гарбачоўская перабудова і падзенне таталітарнага рэжыму. Аднак у Беларусі, дзе камуністы пагалоўна вынішчылі нацыянальную інтэлігенцыю і замянілі яе імпартаванымі ды вымуштраванымі партыйнымі кадрамі, сітуацыя застаецца блізкай да кампучыйскай. Па сённяшні дзень былыя члены і функцыянеры КПБ не выпускаюць са сваіх рук кіраўніцтва органамі вышэйшай і мясцовай улады, адукацыі, культуры і сродкамі масавай інфармацыі. Дзякуючы гэтаму, яны паўсюдна сабатуюць распачатую народнай інтэлігенцыяй работу па адраджэнні беларускай школы, дзіцячага выхавання. Камуністычны клан, счапіўшы рукі, імкнецца захаваць сваё панаванне. У гэтай сувязі прыгадваецца мінулагодняя сустрэча ў адукацыйнай камісіі Вярхоўнага Савета. За ўхіленне ад выканання Закона аб мовах прапаноўвалася зняць з пасады дырэктара адной з менскіх сярэдніх школ. І што ж вы думаеце? У абарону сабатажніка борздзенька паўстаў кіраўнік менскага гуна: «Калі пачнём здымаць дырэктараў, з кім жа тады будзем працаваць?» — спрабаваў нагнаць страху таварыш Дылян. Вось тут якраз сабака закапаны. Наменклатурная ўлада не жадае нічога рабіць, не дапускае нават і думкі пра абнаўленне кадраў. Не інакш, лічыць сябе незаменнай. Ведаючы, з кім мае справу, патрыятычнае грамадства Менска штораз вымушана звяртацца да формаў палітычнага пратэс-

*(Заканчэнне на с. 3.)*

***У Менску адбылося першае арганізацыйнае пасяджэнне эканамічнага суда СНД, на якім быў абраны яго старшыня. Ім стаў міністр юстыцыі РБ Леанід Дашук.***

Спадар міністр, дапамажыце тав. Рубанавай захаваць беларускамоўны садок для нашых дзяцей

Камуністычны бюракрат — ненавіснік беларускага Адраджэння

*Ніл ГІЛЕВІЧ, старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны:*

# Каб наша родная мова запанавала

## Даклад на III з'ездзе ТБМ

Паважаныя дэлегаты III з'езда ТБМ!

Паважаныя госці з'езда!

Прайшло няпоўныя два гады, як адбыўся II з'езд Таварыства, і вось мы сабраліся на III. Сабраліся крыху раней вызначанага статутам тэрміну. Такое рашэнне прыняла Рэспубліканская Рада ТБМ, улічваючы, што і эканамічная, і грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне літаральна з кожным днём абвастраецца, і адклад разгляду нашых тэбээмаўскіх праблем, нашых задач і клопатаў будзе не на карысць справе. Нічога, вядома, такога не здарылася, каб крычаць «каравул», падымаць спалохана-панічны гвалт, але сур'ёзна і самакрытычна пагаварыць аб тым, што і як мы, сябры ТБМ, робім па выкананні Закона аб мовах у рэспубліцы, крайне неабходна. Спадзяюся, што і наша размова ў гэтай зале будзе весціся без крыку і гвалту, без асаблівага напружання галасавых звязак, без таго мітынгавання, да якога мы за апошнія гады досыць-такі прывыклі. Думаецца, што для нас з вамі час мітынгавання адышоў: агітаваць саміх сябе за неабходнасць адраджэння Беларусі, яе мовы і культуры няма патрэбы. Затое ёсць пільная патрэба параіцца разам — удумна, разважліва і ўзаемапачціва,— што сёння, вось цяпер, на гэтым этапе, мы павінны рабіць і зрабіць, і найперш у арганізацыйным плане, каб актывізаваць статутную дзейнасць Таварыства. Скажу адразу: у нас няма аніякіх падстаў, каб быць задаволенымі тым, як мы працуем, і ёсць больш чым дастаткова падстаў для незадаволенасці і нават для трывогі. І трэба ж разабрацца ў прычынах, прааналізаваць іх, каб зрабіць належныя высновы, ухваленыя ўсім з'ездам.

Першага верасня споўніцца тры гады, як уступіў у дзеянне Закон аб мовах. У многіх сферах грамадскага жыцця — гэта канчатковы тэрмін для поўнага пераходу на дзяржаўную, г. зн. беларускую мову. Аднак ужо сёння можна зусім пэўна гаварыць, што сыдзе тэрмін, а названага пераходу не адбудзецца. У тых жа галінах, дзе ўстаноўленыя Законам тэрміны «беларусізацыі» — 5-7-10 гадоў,— становішча яшчэ горшае, уражанне часам такое, што там і не думаюць і не згадваюць пра Закон аб мовах. Больш таго: рэзка ўзрасло супрацьдзеянне ажыццяўленню Закона аб мовах, значна пачасціліся праявы поўнага ігнаравання гэтага Закона і адкрытага сабатажу. Нашы «добразычліўцы» актыўна гуртуюць сілы і яўна пераходзяць у наступ супроць пашырэння беларускай мовы ў грамадскім ужытку, супроць адраджэння культуры і гісторыі Беларусі, а значыць,— супроць станаўлення і ўмацавання незалежнай Беларускай дзяржавы. Дазвольце не прыводзіць прыклады — іх безліч, і мы ведаем пра іх не толькі са сродкаў масавай інфармацыі, але і з уласных назіранняў.

Наша Таварыства не дзяржаўны дэпартамент па пытаннях моўнай палітыкі і абароны мовы, які ёсць, напрыклад, у Францыі, мы не можам загадваць, камандаваць, прыцягваць да адказнасці. Але не пра гэта і гаворка. Гаворка пра тое, што мы — у цэлым, агулам — вельмі слаба дапамагаем ажыццяўленню Закона аб мовах даступнымі нам спосабамі і сродкамі. Кажу: у цэлым, бо ёсць і прыемныя выключэнні, ёсць сярод нас людзі, сапраўдныя энтузіясты-руплівцы, якія працуюць проста выдатна, і я пастараюся трохі пазней хоць некаторых назваць. ТБМ — культурна-асветніцкая арганізацыя, сябры якой, паводле Статута, абавязаны перш за ўсё садзейнічаць пашырэнню ўжытку беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця рэспублікі, захаванню яе чысціні і самабытнасці, фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці, паскоранаму і поўнаму забеспячэнню беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай у Беларусі. Галоўны напрамак нашай работы — работа з канкрэтнымі людзьмі, якіх трэба далучыць да справы адраджэння нашай мовы і культуры, а найперш — памагчы ім авалодаць беларускай мовай, памагчы ім стаць патрыётамі гэтай мовы. Дзе і якім спосабам найлепш рабіць гэту работу? Вядома ж, у суполках ТБМ, клапоцячыся пра тое, каб яны папаўняліся новымі сябрамі, каб расла іх агульная колькасць. На сённяшнім этапе гэта архіважна. Калі-небудзь, калі наша мова запануе паўсюдна, гэта задача перастане быць галоўнай. Але сёння — калі яшчэ трэба перамагчы — сёння стварэнне кожнай новай суполкі ТБМ — гэта і будзе яшчэ адзін крок да жаданай перамогі. Ну, а якую ж мы маем гэтую самую колькасную карціну? Я сказаў бы — ганебную, азіраць якую без пачуцця сораму немагчыма. Міркуйце самі. У 42 раёнах рэспублікі наогул няма арганізацый ТБМ! Ва ўсякім разе, у нас няма ніякіх звестак, што там існуе хоць адна, а можа, і некалькі не аб'яднаных у арганізацыю суполак. Але ж 42 раёны — гэта добрая трэць тэрыторыі Беларусі, нават крыху больш трэці! Чатыры без мала гады прайшло, як утварылася ТБМ, а ў нас цэлыя раёны, дзесяткі раёнаў не ахоплены тэбээмаўскім рухам! Я ж не думаю, што ў тых раёнах дзяржаўная мова ў такім выдатным становішчы, што і патрэбы ў нашых суполках няма.

З вялікім засмучэннем думаю: у кожным жа раёне ёсць інтэлігенцыя настаўніцтва, работнікі культуры, прадстаўнікі іншых інтэлігентных прафесій — ну няўжо яны не бачаць, не ведаюць, што адбываецца ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі, няўжо не чулі пра ТБМ і няўжо не разумеюць, што іх святы абавязак — узяцца і як мага шырэй разгарнуць працу па адраджэнні роднай мовы, па вяртанні яе ў школы і дзіцячыя садкі, у калгасныя канторы і дамы культуры, на фермы і ў быткамбінаты і гэтак далей. На працягу апошніх двух месяцаў я пабываў на калгасных справаздачных сходах у сваёй выбарчай акрузе. У раёне, дзе справы са становішчам беларускай мовы не толькі не горшыя, а на шмат лепшыя, чым у многіх іншых раёнах. І тым не менш, як жа было балюча бачыць: ну каб хоць адзін старшыня калгаса, ну каб хоць адзін спецыяліст выступіў на гэтых сходах на мове зямлі сваёй, на беларускай мове. Сумна!

Сёння мы будзем гаварыць пра наша ўменне працаваць на ніве адраджэння беларускай мовы ў сучасных умовах. Пытанне крайне важнае. Наша работа ў значнай меры палітычная, бо клопат пра мову, пра яе пашырэнне ва ўжытку, пра яе дзяржаўную моц і аўтарытэт — гэта клопат пра незалежнасць духу народа, пра незалежнасць нацыі. Пакуль гэта апошняе будзе заставацца для нас праблемай жыцця і смерці, праблемай нашага лёсу, нашага гістарычнага існавання — датуль і наша праца, літаральна ўсе яе аспекты будуць мець палітычную падсветку. Вазьміце, для прыкладу, пытанне аб удасканаленні правапісу нашай сучаснай мовы. Думаю, што адзін Бог ведае, колькі мы, абаронцы роднае мовы, трацім у палітычным плане ад таго, што дапусцілі ў друку такі правапісны разнабой. Многіх людзей мы гэтым самым проста адштурхоўваем ад сябе, у многіх забіваем жаданне вывучаць беларускую мову, бо яны разважаюць, і справядліва, так: што гэта за мова дзяржаўная, літаратурная, калі самі вучоныя, адукаваныя людзі, беларусы, не разбяруцца ў яе правапісе? У выніку, бясспрэчна, паслабляецца нацыянальна - дзяржаўная моц Беларусі наогул. Мы трацім прыхільнікаў, паплечнікаў і сяброў.

Наш абавязак — весці работу з бацькамі дзяцей — дашкольнікаў, школьнікаў, будучыняй нашай краіны і нашай дзяржавы. Вядома, ёсць падставы радавацца, што моладзь у большасці сваёй вельмі чуйна настроена да гэтай праблемы, да гэтых клопатаў, і тым не менш сітуацыя куды больш складаная, чым многім здаецца. У Вярхоўны Савет рэспублікі — і на імя Старшыні Савета, і ў нашу камісію — ідзе шмат пісем. На жаль, не толькі ў падтрымку беларускай мовы як дзяржаўнай. Пісем у падтрымку, спяшаюся сказаць, большасць, і я хачу выказаць вялікую шчырую ўдзячнасць за гэтую падтрымку, ведаючы, што і гэта ёсць работа мясцовых арганізацый Таварыства беларускай мовы. Але многа таксама пісем процілеглага зместу, і кірунку, і пафасу. Некаторыя рускамоўныя бацькі шчыра заклапочаны, і нават устрывожаны, як жа будзе? Маўляў, не так лёгка і проста перайсці на беларускую мову. Я кажу пра людзей шчыра заклапочаных, а не пра спекулянтаў на гэтай праблеме. Апошнім наўрад ці што паможа. Трэба, перш за ўсё, працаваць і гаварыць з тымі бацькамі, якія могуць стаць нам падтрымкай і надзейнай і вялікай. На жаль, паўтараю, не вельмі мы ўмеем у гэтым кірунку, у гэтым сэнсе працаваць. А трэба ўмець. Трэба агітаваць, калі хочаце, даказваць, дзе і чаму яны, бацькі, памыляюцца. Даказваць, якія перавагі будуць мець іх дзеці. калі будуць дасканала ведаць дзяржаўную мову, які прастор ім адкрываецца ў будучыні. Пры гэтым нам трэба болей дбаць пра ўласную дасведчанасць у пытаннях гісторыі і культуры Беларусі, гісторыі беларускай мовы, тэорыі мовазнаўства. Яе вельмі не хапае многім шчырым змагарам за беларускае слова, і нярэдка ў спрэчках, у дыспутах яны проста пасуюць перад тэарэтычна ўзброенымі і ваяўнічымі апанентамі. Трэба вучыцца і ўмець спрачацца, і, канешне ж, менш за ўсё зрывацца на эмоцыі.

Далей, трэба пашыраць і мацаваць супрацоўніцтва з кіраўнікамі мясцовых органаў улады і гаспадарнікамі. Вядома, у кожнага з нас ёсць шмат прэтэнзій да гэтых самых кіраўнікоў мясцовай улады. Але ж, на жаль, гэта рэальнасць: іншых органаў улады ў нас няма, і мы вымушаны працаваць з тымі, якія ёсць. Не адкрыю сакрэту, калі скажу, што мы вымушаны ў нашай дзейнасці шукаць, так бы мовіць, добрага дзядзьку ці добрых дзядзькаў, якія б падтрымалі нас матэрыяльна. Не варта думаць, што гэтыя ўплывовыя і грашавітыя людзі — спрэс закаранелыя «ворагі беларушчыны». Нярэдка можа быць зусім наадварот. Не маю часу спыняцца на прыкладах, на імёнах, іх не так і мала. Адзін, самы свежы прыклад усё ж падам: учора ў Маладзечне адкрыты першы ў нашай краіне помнік «Змагарам і пакутнікам за незалежнасць Беларусі». Значыць, калі належным чынам арганізаваць, наладзіць і павесці работу — можна дасягнуць вялікіх поспехаў. Магчымасці нашы не малыя, арганізацыя, пры ўсіх агаворках, досыць аўтарытэтная, з намі ўвогуле лічацца. Вядома, не ўсюды і не заўсёды; лічацца там, дзе мы бываем настойлівымі, дзе мы не адступаем, не апускаем рукі. Аб нашых магчымасцях сведчыць праца такіх раённых арганізацый ТБМ, як Маладзечанская (кіраўнік Л. Цімохін), Мастоўская (кіраўнік А. Белакоз), Лідская (кіраўнік М. Мельнік), Баранавіцкая (кіраўнік М. Бернат), Навагрудская (кіраўнік У. Бармута), Мядзельская (кіраўнік К. Каратай), Салігорская (кіраўнік М. Мацюкевіч), Полацкая (кіраўнік Т. Гарэлікава), Гродзенская (кіраўнік А. Пяткевіч), Пастаўская (кіраўнік А. Касцень).

Я прашу прабачэння, што не магу назваць іншыя раёны, у якіх таксама назапашаны пэўны станоўчы вопыт, у тым ліку і ў раённых арганізацыях горада Менска. Скажам, у арганізацыі Заводскага раёна (кіраўнік М. Лавіцкі), Савецкага раёна (кіраўнік А. Трусаў), Маскоўскага раёна (кіраўнік В. Навуменка), Фрунзенскага раёна (кіраўнік А. Якшэвіч). Пахвальнага слова заслугоўваюць некаторыя сябрыны ТБМ, што працуюць пры навучальных установах, на фабрыках, на заводах. У першую чаргу хацеў бы назваць сябрыну Беларускай політэхнічнай акадэміі. На жаль, праз наш друк мы вельмі мала ведаем, якая там вядзецца выдатная дзейнасць па выданні літаратуры на беларускай мове, слоўнікаў, па перакладу лекцыйных курсаў, практычных заняткаў на беларускую мову, па стварэнні актыву сяброў нашага таварыства, сяброў беларускай мовы і культуры. Гэтак жа сама я мог бы сказаць і пра Беларускі эканамічны універсітэт, пра Беларускі тэхналагічны інстытут, у якіх створаны спецыяльныя універсітэты роднай мовы, гісторыі і культуры. Скажам, у Беларускім тэхналагічным інстытуце ў названым універсітэце займаецца каля 100 выкладчыкаў інстытута. Няма ніякага сумнення, што гэта дасць вялікі плён і што гэты вопыт заслугоўвае падтрымкі і пашырэння. Сярод нас ёсць асобныя руплівцы нашай справы, якія паказваюць прыклад, не пабаюся сказаць, самаахвярнай працы, якія ўсе гэтыя 4 гады кладуць і сілу, і душу, і сэрца на прапаганду роднай мовы, на дапамогу тым, хто хоча ёю авалодаць. Напрыклад, Валянціна Карлаўна Раманцэвіч — звышсціплы чалавек, выдатны працаўнік і арганізатар і таленавіты педагог-выкладчык... Або — сябра Рэспубліканскай Рады і яе сакратарыята Зміцер Санько. Ён узначальвае выдавецкую камісію ТБМ — і вядзе работу вельмі энергічна, прафесійна, не проста зацікаўлена, а з сапраўдным гарэннем, з вялікай адказнасцю за нашу агульную справу.

З рэспубліканскім штабам ТБМ падтрымліваюць сувязь суполкі далёкага і блізкага замежжа (Масква, Вільня, Рыга, Санкт-Пецярбург, Беласток, ЗША, Канада, Аўстралія), замежныя беларускія выданні. Многія нашы грамадзяне і ўстановы, а таксама замежныя суайчыннікі робяць грашовыя ахвяраванні ў падтрымку ТБМ і яго дзейнасці. Дзякуй усім! Шчыры дзякуй! Але як лепш наладзіць з імі супрацоўніцтва ў імя нашай роднай мовы — пра гэта хацелася б пачуць размову тут, на з'ездзе.

Скажу па шчырасці, нашаму рэспубліканскаму штабу ТБМ, сакратарыяту Рады працаваць нялёгка. Неабходны штат трымаць немагчыма — няма сродкаў, а аб'ём працы — велізарны. Шмат сіл даводзіцца класці на гаспадарчую дзейнасць, на пошукі сродкаў, фінансаў, патрэбных на арганізацыю курсаў, на выданне кніг і іншае. Тут трэба аддаць належнае галоўнаму сакратару Рады ТБМ Яўгену Цумараву. Добра яму дапамагаюць адказны сакратар Васіль Вільтоўскі і кіраўнік спраў Алесь Багдановіч. На маё разуменне, сёння варта падумаць, як зрабіць больш эфектыўнай і плённай дзейнасць Рэспубліканскай Рады ТБМ, яе сакратарыята.

У рэспубліцы на сённяшні дзень вельмі складаная палітычная сітуацыя, і я не меў дастатковага часу, каб найлепшым чынам прааналізаваць некаторыя вельмі важныя моманты дзейнасці Таварыства. Але, як я ўжо сказаў у пачатку, я разлічваю на ўсіх вас, адзін

# у Беларусі паўсюдна і назаўсёды

ніхто ў поўным аб'ёме гэтага не зробіць. Я і цяпер стаю на гэтай трыбуне ў вялікім хваляванні, не ведаючы, што тым часам адбываецца ў Вярхоўным Савеце, паколькі там вырашаюцца надзвычай важныя для лёсу ўсёй нашай дзяржавы пытанні. Хачу гэтым самым падкрэсліць, што ў такой сітуацыі мы, прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі, павінны тым больш праяўляць вытрымку, спакой, раўнавагу і менавіта спакойна, уважліва абмеркаваць усе нашы праблемы. Упэўнены, што ў выніку мы прыйдзем да згоды, таму што ўсіх нас сабрала і прывяло на гэты з'езд адно пачуццё і адно жаданне: каб наша родная мова запанавала ў Беларусі паўсюдна і назаўсёды.

26 сакавіка 1993 года.

# ПАСТАНОВА
# III З'ЕЗДА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

Грунтуючыся на тысячагадовых традыцыях нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, на аснове якіх паўстала ў 1918 годзе Беларуская Народная Рэспубліка і ў наш час была абвешчана незалежнасць Рэспублікі Беларусь, наша Бацькаўшчына вяртаецца да нацыянальнага адраджэння. У гэтым рэчышчы Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, зыходзячы з асноватворных інтарэсаў народа Беларусі, імкнецца да рэальнага забеспячэння ўмоў для нацыянальна-культурнага развіцця Айчыны. На гэтым шляху здзейснена нямала: прыняты Закон аб дзяржаўным статусе беларускай мовы, забяспечаны спрыяльныя для пашырэння і папулярызацыі нацыянальнай культуры і грамадскага ўжытку беларускага слова прававыя ўмовы, і перш за ўсё ў галінах адукацыі, культуры, інфармацыі, а таксама ў сферы міжасабовых зносін. Аднак, усведамляючы сваю адказнасць за лёс Бацькаўшчыны і будучыню народа Беларусі, з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны адзначае:

— Вярхоўны Савет і Урад рэспублікі, органы мясцовага самакіравання не выканалі ў большай частцы сваіх абавязкаў па ажыццяўленні Закона аб мовах і не сталі гарантам нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, забеспячэння правоў народа на захаванне нацыянальнай саматоеснасці. Некаторыя дзяржаўныя структуры ў галіне моўна-культурнага будаўніцтва праводзяць антынацыянальную палітыку, што праяўляецца ў стварэнні ўмоў, пры якіх руйнуецца нацыянальна-культурная спадчына Беларусі і тармозіцца працэс духоўнага адраджэння народа.

— Шэраг адказных работнікаў органаў дзяржаўнага кіравання, гаспадарча-вытворчых структур, прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў, асобныя групы грамадзян працягваюць беспакарана парушаць моўна-культурнае заканадаўства, абражаюць дзяржаўныя сімвалы Беларусі.

— Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, дзяржаўная праграма развіцця беларускай і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь, законы аб мовах, адукацыі, культуры, якія з'яўляюцца гарантам духоўнага абнаўлення і развіцця беларускага народа, служаць асновай для адраджэння нацыянальна-культурнай спадчыны і беларускага слова, не сталі абавязковымі для ўсіх дзяржаўных службоўцаў, кіраўнікоў вытворчых і грамадскіх структур.

У сувязі з гэтым III з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны:

1. Лічыць антынароднымі і патрабуе прызнаць неканстытуцыйнымі тыя дзеянні Вярхоўнага Савета, Урада і іншых органаў дзяржаўнага кіравання рэспублікі, якія пярэчаць нацыянальным інтарэсам народа Беларусі і прыніжаюць ролю дзяржаўнай мовы ў грамадскім жыцці.

2. Асуджае як антынародныя і антыпатрыятычныя дзеянні тых партый і грамадска-палітычных аб'яднанняў, якія, парушаючы Канстытуцыю і дзейнае заканадаўства, імкнуцца да ўвядзення ў Рэспубліцы Беларусь дзяржаўнага двухмоўя, чым штурхаюць беларускі народ у бездань этнічна-культурнага нябыту.

3. Заклікае ўсіх грамадзян рэспублікі, работнікаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання, рабочых, сялян, службоўцаў, палітычных і грамадскіх дзеячаў, вайскоўцаў, прадпрымальнікаў, студэнтаў і школьнікаў выконваць свой пачэсны абавязак перад народам, аберагаць і памнажаць моўныя скарбы і нацыянальна-культурную спадчыну Бацькаўшчыны, верай і праўдай служыць Беларусі.

4. Выказвае грамадзянскі пратэст у сувязі з недастаткова актыўным ажыццяўленнем артыкулаў 27 (мова ў сферы навукі), 28 (мова ў сферы культуры), 29 (мова сродкаў масавай інфармацыі), 31 (мова аб'яў і паведамленняў), 32 (мова маркіроўкі тавараў) Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, якім вызначаны трохгадовы тэрмін выканання (да 1 верасня 1993 г.), а таксама артыкулаў 4 (абавязак службовых асоб валодаць беларускай мовай), 7 (мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання) і 12 (мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў), якія павінны цалкам уступіць у сілу ў тэрмін 3—5 гадоў, пачынаючы ад 1 верасня 1990 года. З'езд патрабуе няўхільнага выканання артыкулаў 8 (мова справаводства і дакументацыі) 14 (мова ў сферы абслугоўвання) і 23 (мова выхавання ў дзіцячых дашкольных установах), час на рэалізацыю якіх вычарпаны напалову, а таксама артыкула 21 (мова міжнародных дагавораў і пагадненняў), які ўведзены ў дзеянне з 1 верасня 1990 года.

Зважаючы на тое, што Узброеныя сілы Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца састаўной часткай дзяржаўнай сістэмы, з'езд звяртае ўвагу Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь на тое, што дзеянне Закона аб мовах распаўсюджваецца і на беларускае войска.

5. Звяртаецца ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з прапановай стварыць пры Прэзідыуме Камісію па ажыццяўленні адзінай моўнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь.

6. Звяртаецца да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь з просьбай вылучыць сродкі для стварэння ў складзе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны грамадска-дзяржаўнай метадычна-арганізацыйнай службы, заклікаюй ва ўзаемадзеянні з органамі дзяржаўнага кіравання і грамадскімі аб'яднаннямі забяспечваць ажыццяўленне адзінай моўнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь.

7. У сувязі з абвяшчэннем ЮНЕСКА 1993 года годам карэнных народаў заклікае Вярхоўны Савет, Урад і іншыя органы дзяржаўнай улады, кіравання і грамадскасць Беларусі шырока адзначаць яго ў рэспубліцы як свята нацыянальнай культуры і беларускай мовы.

г. Менск,
27 сакавіка 1993 г.

*Перадрук*

# Чаго ж ім трэба?

***22 снежня 1992 г. у «Сельской жизни» апублікавана інтэрв'ю А. Гуляева з кандыдатам філасофскіх навук Віцебскага педінстытута У. Уткевічам, прадстаўніком партыі «Славянский собор «Белая Русь», «самым чыстакроўным беларусам... з біяграфіяй ледзь не ад Ефрасінні Полацкай».***

Чаму таварыш Гуляеў знайшоў для амбіцыёзнага інтэрв'ю менавіта У. Уткевіча і менавіта ў ВДПІ, зразумела. У гэтай вышэйшай навучальнай установе з'явілася філія «Славянскага сабора» і то тут, то там назойліва напамінае аб сабе з'едлівымі выпадамі супраць суверэннай Беларусі і беларушчыны. Памятаецца, крыху раней «имперские люди» з гэтага інстытута выступілі з калектыўным пісьмом у «Правде», а зараз Уткевіч «со товарищи» напісаў ліст у Вярхоўны Савет з патрабаваннем надаць у незалежнай Беларусі расійскай мове статус другой дзяржаўнай і такім чынам пахаваць родную беларускую.

Гэты кандыдат філасофскіх навук з упэўненасцю гісторыка сцвярджае: «Ведь иногда говорят, что всё национальное едва ли не попиралось ногами — это тоже неправда. И язык, и историю родную в школах учили». Як тут з ім не пагадзіцца? Як вучылі, так і ведаюць яе тыя, хто імкнуўся не да спасціжэння праўды, а да адзнак, навуковай ступені любымі сродкамі, хто будаваў сваю кар'еру па прынцыпу «чего изволите-с?». Такім дастаткова было «Краткого курса...», «Гісторыі БССР» паводле Абэцэдарскага, словам, таго, што дазвалялася, а большым сябе яны лічылі не вартым абцяжарваць.

Кан'юнктуршчыкі імкнуліся дагадзіць партбосам і заўсёды былі гатовы даказаць, што белае — гэта чорнае і наадварот. І калі такім даводзілася вучыць дзяцей, то і іх яны падманвалі, гаварылі, што гісторыя ўласна Беларусі пачалася ледзь ці не з кастрычніка 1917 года, а да таго вартай увагі гісторыі не было. Дзякуючы такому «навучанню», многія пакаленні школьнікаў і студэнтаў ведаюць Аляксандра Неўскага, Юрыя Далгарукага, Дзмітрыя Данскога, Мініна і Пажарскага, Суворава, бальшавікоў-ленінцаў розных нацыянальнасцей і не ведаюць сваіх нацыянальных герояў, як і гісторыі ўвогуле.

Не ведаюць яны, што адразу пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай расійскі царызм пачаў скасоўваць бе-

(Заканчэнне на с. 4.)

## «Адрэагавалі»

З нагоды трохгоддзя прыняцця Закона аб мовах у газеце «Наша слова» (1993 г., № 5) быў змешчаны матэрыял навукоўцаў Белдзяржуніверсітэта (11 подпісаў) «Ці стане «Веснік БДУ» нацыянальным выданнем?». У ім апавядалася, што, ігнаруючы родную мову, часопіс заняў антыдзяржаўную пазіцыю, скіраваную супраць нацыянальных інтарэсаў беларускага народа. І вось кіраўніцтва часопіса «Веснік БДУ» «адрэагавала»: студзеньскі і лютаўскі нумары часопіса (прыродазнаўчая тэматыка) выйшлі ў свет выключна на рускай мове, а ў сакавіцкім (грамадскія навукі) на беларускай мове змешчаны толькі адзін (!) артыкул, калі не ўлічваць вокладку і застаўкі.

Шкада, што для дзяржаўных структур адраджэнне роднай мовы — справа па-ранейшаму не першага плана.

Навукоўцы Белдзяржуніверсітэта Шамякіна, Навуменка і іншыя (7 подпісаў).

# Беларуская сям'я і савецкая школа. Процістаянне

(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).

ту супраць наменклатурнага засілля ў органах народнай адукацыі. Створаны намаганнямі бацькоў беларускі дзіцячы садок № 376 ад нядаўняга часу расфарміраваны. Памяшканню спатрэбіўся рамонт. Савецкі рана не знайшоў нічога лепшага, як расцерушыць беларускі дзіцячы асяродак па розных установах, без гарантый аднаўлення дзейнасці садка пасля капітальнага рамонту ў яго ранейшым статусе. Занепакоеныя бацькі распаўсюдзілі Зварот да заканадаўчай і выканаўчай уладаў. Дэпутацкія камісіі па адукацыі, выхаванні, культуры і галоснасці распрацавалі сумеснае рашэнне, нават адрасавалі асобны ліст намесніку старшыні Менгарвыканкама А. Сасноўскаму з просьбай парупіцца пра законныя правы бацькоў на нацыянальна-культурнае выхаванне дзяцей. Але ўсё засталося марным. Нават адказу не атрымалі. І тады бацькі арганізавана выйшлі на дэманстрацыю перад уваходам у Савецкі рана. Красамоўныя плакаты засведчылі, што паміж дзеяннямі ўлады і грамадствам існуе нявырашаны канфлікт. Па сутнасці беларусы выказалі недавер органам савецкай адукацыі ў справе выхавання сваіх дзяцей, пераканаўшыся, што камуністы не маюць на гэта маральнага права. Крывадушна прымазваючыся да народнай ініцыятывы, наменклатурныя чыноўнікі ўсяляк дыскрэдытуюць нацыянальнае Адраджэнне. Пра гэта сведчыць іх непаслядоўнасць у беларусізацыі дзяржаўнага справаводства. Праверкі і знаёмства з работай большасці школ паказалі, што дырэктары не служаць прыкладам у аднаўленні гуманітарных каштоўнасцей беларускага народа. Нават пасля наведвання курсаў і атэстацыі (даволі фармальнай) у інстытуце ўдасканалення настаўнікаў большасць кіраўнікоў школ не карыстаецца ў выхаваўчай рабоце роднай мовай. Няздольнасць старой міністэрскай гвардыі вырашыць імі ж створаныя праблемы — надта відавочная. Трэба думаць, беларускае грамадства будзе ісці па шляху нарошчвання палітычных патэнцый, каб, націскаючы знізу, рэфармаваць камуністычныя структуры кіравання народнай асветай і выхаваннем.

Л. ЛІПЕНЬ.

# Вучымся!

## УРОК АДЗІНАЦЦАТЫ

*Вайскоўцам пра родную мову*

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце словы, правільна вымаўляючы перад націскным складам часціцу *не.*

| [н'а] | [н'э] |
|---|---|
| не хо́ча | не захо́ча |
| не про́сіць | не папро́сіць |
| не піша | не напіша |
| не но́сім | не прыно́сім |
| не ця́гне | не расця́гне |
| не ка́жа | не адка́жа |

2. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, памятаючы правілы вымаўлення. Растлумачце іх сэнс. Звярніце асаблівую ўвагу на вымаўленне выдзеленых слоў.

Рада *з людзьмі* ніколі *не* шкодзіць. Адна галавешка і ў печы *не* гарыць, а дзве і ў полі *не* гаснуць. Адна ластаўка вясны *не* робіць. З *песні* слова *не* выкінеш. У лес дровы *не* возяць. Навука хлеба *не* просіць. Хто ў бядзе *не* быў, той сапраўдных прыяцеляў *не* знае. Розуму на кірмашы *не* купіш. Хто летам позна *спіць*, той лета *не* бачыць. *Не* саромейся пытаць: больш спытаеш — больш пазнаеш. *Не* слухаў бацькі і маткі, дык людзі навучаць. Ідзі *з людзьмі*, то *не згубішся*. Да чаго *не* дойдзеш, то ў *кніжцы* знойдзеш. Добры чалавек і сабаку дражніць *не* будзе. Са свайго языка *спусціш* — на чужым *не* **зловіш**. *Не* рабі ліхога і *не* бойся нікога.

3. Прачытайце верш Міколы Хведаровіча, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў. Звярніце ўвагу на **выдзеленыя словы**.

**Родныя вобразы**

Мы *ездзім* далёка за мора
Чужыя *глядзець гарады*,
Туды, дзе скалістыя *горы*,
Азёры крыштальнай вады.
І *часта*, так часта бывае,
Што мы ў сумятлівым *жыцці*
Мінаем і *не заўважаем*
Красы нашых родных *мясцін;*
Сваіх *гарадоў* і пасёлкаў,
Абвеяных ласкай *вятроў*,
І подыху пахкае смолкі
Старых беларускіх *бароў*.
І той, хто Палесся *не бачыў*,
Хто ў Пінску ніколі *не быў*,
На Прыпяці хто *не рыбачыў*,
*Не плыў* у вясенні *разліў*,—
*Не зведаў* красы свайго краю.
Скажу я вам *праўду* адну:
Заморскія вёсны, я знаю,
*Не лепей* за нашу вясну.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце словы, прааналізуйце варыянтнасць вымаўлення прыназоўніка *без.*

Без мовы [б'аз]
без ласкі [б'аз]
без возера [б'аз]
без хаты [б'ас]
без клопату [б'ас]
без тых [б'ас]

без сілы [б'ас']
без лесу [б'аз']
без меры [б'аз']
без жалю [б'аж]
без жартаў [б'аж]
без шчасця [б'аш]

**Запомнім!** Прыназоўнік *без* з назоўнікамі і займеннікамі пішацца асобна і нязменна. Пры вымаўленні перад націскным складам е[э] пераходзіць у я[а]. Зычны *з* на канцы **прыназоўніка** *без* падпарадкоўваецца агульным правілам вымаўлення свісцячых.

2. Прачытайце верш Ларысы Геніюш. Растлумачце асаблівасці вымаўлення выдзеленых слоў.

**Чмель**

Была *ў чмяля* жонка —
Рухавая *пчолка.*
То мядок *збірала,*
*Чмяля частавала.*
А ён, *надзіманы,*
На дыван даматканы
*Лёг* і кажа рамонкам:
— Маю *дрэнную* жонку,
Дома толькі *начуе.*
**Днём** *паклічу* — не *чуе.*
Мёду мае нямала,
Але вострае *джала.*

3. Прачытайце тэкст і ўявіце сабе прыгажосць, апісаную Уладзімірам Дубоўкам. З чым Вы можаце параўнаць красу вясновага саду?

Сады красавалі. Нібыта нейкая дзівосная духмяная пена акіянскага прыбою абкідала гэтыя дрэвы, усё наваколле, і яны ў сонечным яскравым праменні зіхацелі мільёнамі іскрынак, іскрынак хараства, жыццёвае сілы, неўміручае жыццёвае сілы.

А хіба жыццё не акіян? Акіян непераможны, страшны і радасны, вясёлы і сумны, стваральны і разбуральны, але бясконцы.

4. Зрабіце паведамленне паводле наступных сітуацый.

* Вы пасадзілі на дачы малады сад.
* У вашым садзе сёлета добры ўраджай.
* Вам прапанавалі флянсы (саджанцы) добрых гатункаў яблынь і груш.
* Вы любуецеся цвіценнем свайго саду.
* Парайце маладым гаспадарам, як лепей даглядаць клубніцы.
* Вам неабходна перасадзіць кусты парэчак.

5. Адкажыце на пытанні паводле артыкула «Незвычайныя будынкі».

— Хто жыў у наваколлі старажытнага Навагрудка?

— Як быў умацаваны вакольны горад?

— Чым былі ўражаны археолагі, якія раскапалі рэшткі жылля XII—XIII стагоддзяў?

— Чаму фрэскавы роспіс сценаў адкапаных будынкаў называюць унікальным?

— Для чаго выкарыстоўвалася шкло?

6. Прачытайце тэкст і спішыце. Растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

Камандзір дывізіі падышоў да *лётчыка:*

— Падымай, лейтэнант, у паветра сваіх *летуноў.*

Штурмавікі *пранесліся* так нізка, што рокат іх на хвіліну заглушыў усе гукі вайны. Праз кіламетры два з паловай яны *развярнуліся* і пайшлі ўсцяж *пярэдняга* краю, расстрэльваючы праціўніка з *кулямётаў* і гармат. Адсюль было відаць, як з *самалётаў* выкідваюцца вострыя *языкі* полымя. Раз-пораз чуліся выбухі бомбаў...

— Пайшла, царыца палёў і балот!— сказаў падпалкоўнік-*разведчык, глядзячы* наперад.

Там былі відаць тысячы *пехацінцаў.* З *мяшкамі* за *плячыма*, са зброяй, яны паступова аддаляліся. На *шляху нярэдка* ўскідваліся дымы выбухаў, але людзі не спыняліся.

7. Прачытайце і спішыце верш Максіма Танка «Гастэла», устаўце прапушчаныя літары *е* ці *я.* Скажыце, каго Вы ведаеце яшчэ з герояў Вялікай Айчыннай вайны?

Ты л.цеў над краінай бацькоў.
Пасівелыя замкаў в.жы,
Стрэхі хат, даль блакітных палёў
І, як жнеі, б.розы на м.жах.
І нішто не казала аб тым,
У той дзень і спакойны і ясны,—
Што засцеле з.млю гэты дым,
Што ў крыві хутка сонца пагасне.
І што прыйдз.цца нам, капітан,
Скрыжаваць з лютым ворагам
зброю,
Што краіна бацькоў можа стаць
Хутка помнікам славы г.рою.

## Тлумачэнне новай тэмы: Правапіс іё (ыё), ія (ыя), іе (ые)

У шэрагу слоў іншамоўнага паходжання спалучэнне, што ў расійскай мове выглядае як *ио,* у беларускай мове на пісьме перадаецца пад націскам літарамі *іё(ыё): біёлаг, патрыёт,* а не пад націскам — *ія(ыя): біялогія, патрыятызм.*

Выключэнне: *Токіо, трыо.*

Спалучэнне *иа* заўсёды перадаецца літарамі *ія(ыя): авіяцыя, сацыялізм.*

Спалучэнне *ие* перадаецца літарамі *іе(ые): гігіена, арыентацыя.*

**Прыстаўныя гукі**

Прыстаўное *в* вымаўляецца і пішацца перад націскным **о** і карэнным *у,* калі з іх пачынаецца склад: *воблака, завочны, вуліца, вугал, навука.*

Калі пачатковае *о* пераходзіць у *а*, то прыстаўное *в* не пішацца: *вобласць — абласны, восень — асенні.*

Выключэнні: *вока, вачэй, вачаняты; востры, вастрыць, вастрэйшы; навокал, ваколіца.*

Прыстаўное *в* не пішацца перад пачатковым *о* і ў словах іншамоўнага паходжання, імёнах, прозвішчах, геаграфічных назвах *(ордэн, урна, Ульяна, Украіна, Омск)*, перад прыставачным *у (участак)* і перад *у,* **якое развілося з** *в (учора, унук).*

Прыстаўное *г* пішацца ў словах *гэй, гэты.*

Прыстаўное *і* вымаўляецца і пішацца ў некаторых словах перад збегам зычных, першымі з якіх з'яўляюцца *р, л, м: іржа, ільдзіна, імхі.*

Прыстаўное *і* не вымаўляецца і не пішацца перад збегам зычных, першы з якіх *р, л,* калі папярэдняе слова канчаецца на галосны. (Кроплі дажджу *рдзелі* на сонцы. Паплылі першыя *льдзіны* па рацэ).

Прыстаўное *а* пішацца толькі ў словах *аржаны, амшэць* і ўтвораных ад іх.

ЗАМАЦАВАННЕ

Практыкаванне 1. Знайдзіце ў словах прыстаўныя гукі і растлумачце іх ужыванне.

*Вугаль, навука, завулак, іржавы, амшары, вуда, вучань, Ганна, вузел, вушы, імгла, павуцінне.*

Практыкаванне 2. Запішыце сказы і растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

На высокіх узгорках пажаўцела ***ржышча.*** Я пасеяла ў раллю жменю зёран *ільняных.* Цэлы дзень *імжыць* дробны дождж.

Практыкаванне 3. Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прыстаўныя галосныя і зычныя.

Сплаў з .олава і медзі называецца бронзай. Вельмі цікава апавядала .ольга Андрэеўна пра помнікі культуры Беларусі. Тракт і прасёлачныя дарогі былі падобныя да .узенькіх стужак. На.окал была цішыня, спакой. Да .озера непрыкметна падкралася .осень. Коні шпарка .мчаліся па дарозе.

Практыкаванне 4. Перакладзіце словы на беларускую мову і запішыце.

*Радиола, стадион, энтузиазм, официантка, библиотека, патриот, рационализатор, национальность, вариант, диагноз, океан, пенсионер, чемпион, период, мелиорация, авиация, диалог.*

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

**Агарод**

1. Падкрэсліце і запомніце словы (і словазлучэнні), з якімі Вы сустрэліся ўпершыню. Пабудуйце з імі словазлучэнні.

огород — агарод
овощи — агародніна (*гіст.* ярына)
овощной — з агародніны
овощевод — агароднік
картофель — бульба
морковь — морква
свёкла — бурак
редис — радыс
редька — рэдзька
репа — рэпа
брюква — бручка
лук — цыбуля
чеснок — часнок
огурец — агурок
капуста — капуста
кочан капусты — галоўка капусты
кочерыжка — храпка
помидор — памідор
горох — гарох
фасоль — **фасоля**
боб — боб
укроп — кроп
сельдерей — сельдэрэй
петрушка — пятрушка
тыква — гарбуз
семечки (подсолнуха) — семкі, семачкі
семечкі (тыквенные) — гарбузікі
подсолнух — сланечнік
подсолнечное масло — **сланечнікавы** алей
салат — салата

* * *

Гряда — града, градка
борозда — баразна
ряд — рад, радок
лопата — рыдлёўка
грабли — граблі
копать — капаць
бороновать — баранаваць
сеять — сеяць
сажать — саджаць
садить — садзіць
рассада — расада
одно растение рассады; боковой побег — флянс
полоть — палоць
сорняк — **пустазелле, зелле**

2. Прачытайце загадкі, запомніце і па памяці загадайце іх сваім калегам.

Сядзіць пані ў жупане, хто жупан здзірае, той слёзы пралівае. **(Цыбуля.)**

Сядзіць Хадосся, растрапаўшы валоссе, хто ідзе, той скубе. (Цыбуля.)

Лата на лаце і шва не знаці. (Капуста.)

На градцы — доўгі і зялёны, у бочцы — жоўты і салёны. (Агурок.)

**Ні акна, ні дзвярэй — паўна хата курэй. (Гарбуз).**

Сама пані ў каморы, а яе косы на двары. (Морква.)

Стаіць дуб повен круп, а наверсе струп. (Мак.)

Адна матка **дванаццаць сыноў мае** і **на ўсіх націскае. (Граблі.)**

## *ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ*

### Шматпавярховыя будынкі

**Сцены будынкаў старажытнага Наваградка былі распісаны фрэскамі. Археолагі меркавалі, што гэты факт сведчыць пра спецыяльную сістэму абагрэву такіх пабудоў. Бо ці варта было размалёўваць сцены, каб яны пакрыліся копаццю, як гэта было ў курных хатах? Дарэчы, ніякіх слядоў куродыму на знойдзеных фрэсках не было.**

**Археолагі ўяўляюць, што старажытныя будынкі Наваградскага вакольнага горада былі шматпавярховымі. У прыватнасці, будынак з фрэскавым роспісам, што стаяў на краі вакольнага горада, быў разлічаны на тое, каб вылучацца не толькі сваім аздабленнем, але і вышынёй. Таму ён павінен быў мець не менш двух паверхаў. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што ўсе будынкі ў Наваградку XII—XIII стагоддзяў былі двух- і нават трохпавярховымі.**

**Будынкі не былі аднолькавымі, яны адрозніваліся вышынёй, плошчай (ад 50 да 100 квадратных метраў) ды мелі індывідуальныя архітэктурныя рысы. Рознымі былі і тыпы печаў гэтых збудаванняў. Адначасова рабілі глінабітныя печы з гліняным ці цагляным чараном і печы з чараном, выкладзеным цэглай.**

**Багаты вакольны горад, як пераканаы археолагі, не быў чужародным у Наваградку, а ўзнік у выніку развіцця мясцовай культуры. На жаль, ён быў разбураны войскам валынскага князя Льва Данілавіча, калі той рабіў паход у Наваградскую зямлю. У летапісах ёсць сведчанне, што Навагрудскі замак не быў захоплены, а валынцы толькі «взя околний град».**

**Паводле кнігі Ф. Д. ГУРЭВІЧ «Старажытны Навагрудак».**




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Віктар Гюго (1802—1885) шмат каму вядомы найперш як аўтар шэрагу славутых раманаў. Між тым, ён сказаў сваё важкае слова таксама ў лірычнай паэзіі і справядліва лічыцца адным з найбуйнейшых паэтаў-рамантыкаў Францыі.

***Віктар ГЮГО***

## Сейбіт

Пачынае цямнець пакрысе...
Я сяджу ў задуменні на ганку.
Апошняя праца на паласе,
Вечар блізіцца бесперастанку.

І так радасна бачыць мне,
Як, у блузе сваёй нязменнай,
Селянін рассыпае па баразне
Поўнаю жменяй насенне.

Яго чорны, доўгі цень
Уздымаецца аж да нёба.
І верыць сейбіт, што заўтрашні дзень
Прынясе яму ўволю хлеба.

Чакае зямля зярнят,
Будзе рунь зелянець на палетках.
Уперад ідзе ён і крочыць назад,—
Я гляджу, незнаёмы сведка.

А ноч засцілае прастор,
Заглушае далёкія гукі...
Шырацца аж да самых зор
Чалавечыя дужыя рукі.

**Пераклад з французскай**
**Юркі ГАЎРУКА.**

*Чыталі?* *Чыталі?*

# Ізноў з'явілася «Пралеска»

Адкрываеш другі нумар «Пралескі», і першае, што кідаецца ў вочы,— назва артыкула рэдактара «Будзем ветлівымі». Так, гэта вельмі актуальнае пытанне ў выхаванні, асабліва сёння, бо «сустракаеш на кожным кроку: злосць, нястрыманасць, адсутнасць элементарнай чалавечнасці, сумленнасці, павагі да жанчыны, маці, старэйшага». І хочацца далучыцца да пажаданняў спадара Сачанкі, накіраваных да прафесіянальных выхавацеляў: «Вам дадзена ўнікальная магчымасць выкарыстаць сваю фантазію, майстэрства, талент, нарэшце — дзіцячы калектыў, каб пасяліць змалку ў чалавеку самае неабходнае — Ветлівасць». Думкі, закладзеныя ў гэтым артыкуле, знайшлі шырокае адлюстраванне і ў іншых матэрыялах гэтага нумара.

Раздзел «На шляху нацыянальнага Адраджэння» прадстаўлены не толькі артыкулам Людмілы Саламахі «У гасцёўні Васілька» пра станаўленне і работу яслэўсада № 161 г. Гомеля, але і канспектамі заняткаў выхавацеляў гэтага сада. Сапраўды ёсць чаму павучыцца. Галоўнае, што тут разумеюць: «...мова адродзіцца тады, калі ў сэрцах і душах загарыцца зыркі агеньчык любві і павагі адно да аднаго, міласэрнасці і дабрыні».

У раздзеле «Наша бацькаўшчына» на гэты раз Уладзімір Арлоў знаёміць з нашымі гербам і сцягам, тут жа змяшчаецца адна з версій паходжання назвы «Беларусь». Маленькі чалавек пра многае даведаецца, калі яму прачытаць вершы і невялікія замалёўкі пра бабулю, дзядулю, стрыечнага брацка, пляменнікаў (Алесь Бадак «Блізкія і дарагія людзі»). Як добра, калі ёсць многа сваякоў, блізкіх людзей. І жыццё робіцца вясялейшым і цікавейшым.

Пры сустрэчы са стрыечнымі братамі і сёстрамі добра будзе пагуляць у народныя гульні, якія прапануе Таццяна Арлова (раздзел «Традыцыі. Абрады. Фальклор»). Музычныя кіраўнікі ясляўсада № 327 г. Менска прапануюць у гэтым раздзеле сцэнарый для дзяцей старэйшага дашкольнага ўзросту «Старажытныя беларускія замалёўкі».

«Гасцёўня «Пралескі» змяшчае артыкул Алеся Марціновіча «Творчасць, асветленая дабром» пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка Станіслава Шушкевіча; прыводзяцца ўспаміны пісьменніка, у тым ліку і пра першую настаўніцу — Алімпіяду Васільеўну Сонцаву, якая ў 1889 годзе вучыла Янку (Купалу. «Гэтая старэнькая напаўсляпая і адзіная настаўніца ў школе навучыла мяне любіць і шанаваць сваю родную мову, любіць радзіму, любіць народ». Дарэчы прыведзены тут гэтыя радкі. Як многа можа зрабіць настаўнік, выхавацель, асабліва сёння!

Госць «Пралескі» — галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва» Міхась Пазнякоў, інтэрв'ю з якім «Патрэбна верыць у светлае, чыстае, вечнае» пачынаецца з вельмі важнай думкі: «Патрэбна больш моцная абарона дзіцячага кнігадрукавання з боку дзяржавы. Калі дзяржава гэтага не зробіць, то нас чакае ў будучым і духоўны Чарнобыль». Чытач пазнаёміцца не толькі з праблемамі друкавання, але і з выданнямі, што з'явяцца пад маркай «Юнацтва».

«Псіхалагічны практыкум» працягвае гаворку д-ра псіхалагічных навук Ю. Карандашова на тэму: «Маленства: асновы ўзроставай псіхадыягностыкі развіцця». Каб не пазбаўляць малыша радасці жыцця, забяспечваць яму душэўную цеплыню, спакой, даваць шчасце паўнацэнных адносін з бацькамі, самымі блізкімі людзьмі, раскрываць дарослае жыццё ва ўсёй паўнаце з яго радасцямі і нягодамі, варта прачытаць артыкул кандыдата псіхалагічных навук Ірыны Валітавай «Нашы маленькія «дарослыя» дзеці».

«Экалагічная сцяжынка» расказвае, як прыходзіць да нас вясна («Вясна ідзе»), адпраўляе ў літаратурнае падарожжа ў прыроду, засяроджвае ўвагу на тым, як перадаць малышу складаныя філасофскія паняцці.

Раздзел «Методыка. Вопыт. Планаванне» змяшчае цікавы матэрыял метадыста дзіцячага сада № 11 Слоніма Алы Паўлавай «Не пусцім наш род на звод».

Цікавыя матэрыялы падаюць «Афіцыйны раздзел», «Сямейны клуб «Буслянка», «Вольная старонка». Як заўсёды, часопіс багата ілюстраваны. Шкада толькі, што ў гэтым годзе «Пралеска» не паступае ў продаж. Падпіска абмяжоўвае кола чытачоў. Продаж — гэта ў нейкім плане і добрая рэклама.

**Г. ХАТКЕВІЧ.**

# І святар, і паэт



**На здымку:** святар маладзечанскай Свята-Пакроўскай царквы І. І. Міцько на адкрыцці Менскага абласнога тэатра ў Маладзечне асвячае памяшканне тэатра і акторскі калектыў.

**Іван МІЦЬКО**

### *Успомні пра Бога*

*Калі табе дрэнна ў жыцці!*
*І ў сэрцы пануе трывога,*
*Старайся прычыну знайсці*
*І ўспомні пра Бога.*

*Калі ты застаўся адзін*
*І трэба табе дапамога,*
*Хоць пару маленькіх хвілін*
*Успомні пра Бога.*

*Калі цябе скручвае злосць,*
*І ў злосці не бачыш нікога,*
*Падумай, што кожны з нас госць,*
*І ўспомні пра Бога.*

*Калі ты зусім занямог*
*На цяжкіх жыццёвых дарогах,*
*Павер, што на свеце ёсць Бог,*
*Успомні пра Бога.*

Цяпер, калі аднаўляюцца разбураныя цэрквы, касцёлы і будуюцца новыя храмы, на свядомасць людзей значна пашырыўся ўплыў рэлігіі. І, вядома, памножыліся шэрагі святароў. Трэба шчыра сказаць, рэдка хто з іх вядзе богаслужэнні на мове сваіх прыхаджан-беларусаў. Але з гэтага недарэчнага правіла ёсць і прыемныя выключэнні. Прыгадаем добрым словам ксяндза з Вішнева Уладзіслава Чарняўскага, які ўсё сваё свядомае жыццё вёў перад вернікамі малебны на роднай, блізкай ім мове, займаўся перакладамі рэлігійнай літаратуры на мову Бацькаўшчыны.

Ёсць і ў нас, у Маладзечне, сярод святароў гарачы прыхільнік роднага слова. Гэта Іван Іванавіч Міцько, айцец Свята-Пакроўскай праваслаўнай царквы. Ён не толькі вядзе ў царкве богаслужэнне на роднай мове, але і часта як дэпутат гарсавета выступае на сходах, сесіях і іншых грамадскіх мерапрыемствах як заўсёдным абаронцам і прапагандыстам. І яшчэ трэба адзначыць, што Іван Іванавіч не толькі прапагандуе роднае слова, моліцца за яго пашырэнне і росквіт, але і сам піша вершы на мове свайго народа, часта іх друкуе ў мясцовым друку.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

*Выданні ТБМ*

# «Сумежжа»

«Сумежжа» — газета Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, што выдаецца ў Паставах.

У чацвёртым і пятым нумарах выдання змешчаны падборкі матэрыялаў пра цяжкі жыццёвы шлях сяброў «Саюза беларускіх патрыётаў», якія ў гады сталіншчыны лічыліся ворагамі народа і здраднікамі Радзімы — гэта публікацыі Л. Краснадубскай «Лепш бы мяне застрэлілі адразу» і А. Умпіровіч, А. Фурс «Мы адчулі, што не адны», якія раней друкаваліся ў «Нашым слове» ў рубрыцы «Патрыёты маўчаць не схацелі». Ёсць сярод матэрыялаў, што могуць зацікавіць шырокага чытача, адно з парадаксальных выказванняў Іосіфа Сталіна наконт... адраджэння беларускай нацыі: «Пішуць, што мы, камуністы, быццам бы прымусова ўводзім беларускую нацыянальнасць. Гэта няправільна, таму што ёсць беларуская нацыя, якая мае сваю мову, якая адрозніваецца ад рускай, у выніку чаго падняць культуру беларускага народа можна толькі на яго роднай мове. У сувязі з гэтым партыя палічыла неабходным дапамагчы нацыям, якія адраджаюцца ў нашай краіне,— стаць на ногі ва ўвесь рост, ажывіць і развіць сваю нацыянальную культуру, разгарнуць школы, тэатры і іншыя культурныя ўстановы на роднай мове, нацыяналізаваць, што азначае зрабіць нацыянальнымі па саставу, партыйны, прафсаюзны, кааператыўны, дзяржаўны, гаспадарчы апараты, вырошчваць свае нацыянальныя партыйныя і савецкія кадры і спыніць усе тыя элементы, праўда, не шматлікія, якія спрабуюць тармазіць такую палітыку партыі». Цікава, што цяперашнія прыхільнікі «бацькі народаў», якія носяць на дэманстрацыях ягоны партрэт, адмаўляюць беларусам у нацыянальнай адметнасці. А значыць, пярэчаць свайму куміру? Ці і тут верныя ягонай іезуіцкай панароўцы, калі словы разыходзіліся са справай?

Пад рубрыкай «Палеміка» падаюцца цікавыя матэрыялы дырэктара Пастаўскай узбуйненай друкарні сябра БСДГ Ул. Шыка «Хто не з камуністамі, той...» і В. Дзеўгуця «Не стаўце ўсё з ног на галаву, сакратар Калеснікаў» з нагоды артыкула сакратара Пастаўскага райкама ПКБ А. Калеснікава «Дык хто жадае ваяваць у Паставах», надрукаванага ў газеце «Пастаўскі край». У нумарах змешчана падборка новых вершаў Ігара Пракаповіча і сяброў Пастаўскага літаб'яднання ТБМ імя Ф. Скарыны: Л. Сіманёнак, Г. Жук, Т. Гінько, З. Шыман. Андрэй Чэмер, пастаянны аўтар «Сумежжа» з Вільні, дзеліцца на яго старонках сваімі ўспамінамі пра сустрэчы з Ул. Караткевічам.

У выданні вылучаны таксама рубрыкі: «Нашы вытокі», «Суперфакт», «Правінцыяльныя хронікі».

**Л. Б.**

# Чалавек і яго справа

**Шматпланавая творчасць брэстаўчанкі Марыны Князевай. Выпускніца Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута працуе на камбінаце «Мастацтва». Марына стварае прыгожыя люстры і свяцільнікі са шкла і керамікі, вітражы.**

**Працы мастачкі ўпрыгожваюць Палац прафсаюзаў у Брэсце, тэхнічнае вучылішча швачак у Кобрыне і многія іншыя грамадскія будынкі вобласці.**

**На здымку: Марына Князева з адной са сваіх прац.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**
**Белінфарм.**

# *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, «НАША СЛОВА»!*

*Пачалася падпіска на выданні на другую палавіну 1993 года, якая складаецца з кошту выдання і затрат на паштовыя паслугі.*

***Падпісная цана на 1 месяц — 18 рублёў***
***на 3 месяцы — 54 рублі***
***на 6 месяцаў — 108 рублёў.***
*Індэкс «НАШАГА СЛОВА» — 63 865.*

## *Слоўцы, якія паслужаць*

*Павел МІСЬКО*

— Сучка Палосіных ганддлюе. Гайсае вяселле па вуліцах, па гародах... Колічак хацеў турпуць са свайго, каб не драсавалі. А сучка вазьмі — **«Цяў!»** Дак уся гайня як кінецца-рынецца на яго! Абарвалі, абкалашмацілі, абкусалі ўсяго — ледзь у сцёнцы ўратаваўся!

— А кручаных у гайні не было?

— Не, свае толькі, без наводных. Знаем усіх.

— Ого, сабачыя зубы, такія паганыя бываюць. Доўга не гаіцьмецца, гніць будзе. Скажы яму, хай не бавіцца, на тым жа часе падыдзе ка мне, калі можа. Пашукаю, недзе трава-шаленец сушаная была. На балоце рвала, вішнёвенькім цвіце. Я ўсё яму абскажу — як і парыць, як і піць...

— Ён сабак не любіць, а яны яго. Ваўчука Калінкавых хацеў збаёдаваць, протару ў сала назасоўваў, думаў — глэмне і капутне. Дак ніякая трасца яго не бярэ. Такі злосны, такі паганы.

* * *

У Бярозаўку вам? А во, біты сцяг туды вядзе, па ім

**«Каня рушу, ехаць мушу...»**

і пяшкуйце. Як пойдзеце, дак усё просценька праступіце, не саступайце ўбок на атожылкі. Бо на рэчку можаце выйсці, і ў лес. Просценька-праменька — і як ныйдзеце Бярозаўку.

* * *

— Ганна, ідзі сёння на тарпоўку снапоў.

— А як пісаць будзеш? Учора пападрываліся, цягаючы.

— Як... Як і пісаў — ад воза.

— Калі так, сам ідзі тарпуй. Табе што — чырк-чырк карандашыкам. Кожны дзень два працадні... А ты бачыў, якія вазы кладуць? Воз возу не раўня. І сноп снопу не раўня... Адны жахі, снапы, як кулі, павязалі, удзвюх не падняць, другія — як снапкі лёну... А ў Новым гумне торпішча якое? Футбол ганяць можна, гэта не даўнейшыя аднаасобніцкія гумны.

— Ну — надбаўлю па трыццаць сотак. Мужчыны Гарэлае балота дабіваюць, а чатырох пайшлі ўжо ячмень касіць.

* * *

— От у вайну спегу было — не прыпомню такога. Дзеці ў Анцечкі з хлява на лыжах з'язджалі.

— Казала Анця: так збэрсалі грыву, пасцягвалі кастрыцу, так салому раскоўзалі — неба свяцілася праз латы.

## *І смех і грэх*

*Анатоль ЦЫРКУНОЎ*

**НАКОНТ ЛЯТАЮЧЫХ ТАЛЕРАК**

Каб тыя талеркі былі са жратвой,
Даўно прызямліў бы іх лётны канвой...

**АБ ПТУШКАХ**

І сярод птушак нярэдка бывае:
Важная птушка фальшыва спявае...

**КРЫЗІС ФІЛАСОФІІ**

Адкуль Дыягену з'явіцца, скажыце,
Калі бачкатара ў такім дэфіцыце...

**СВЕТЛАЯ МЭТА**

Ішлі з надзеяй: мэта блізкая...
Ды не дайшлі — дарога слізкая...

# НАРОДНАЯ ЛЯКАРНЯ

***Д. Джарвіс: Нацыянальныя асаблівасці людзей і народная медыцына***

*(Працяг. Пачатак у №№ 9—13).*

Калі гаварыць пра больш або менш энергічныя тыпы арганізма, то трэба мець на ўвазе іх розныя эмацыянальныя праяўленні. Закранаючы гэта пытанне, доктар Джарвіс адзначае ўплыў пачуццяў на рэакцыю мачы, якую можна вызначыць з дапамогай лакмусавай паперкі, што чырванее, калі рэакцыя мачы кіслая, і сінее, калі яна шчолачная. На шматлікіх прыкладах Д. Джарвіс паказвае чытачам, што пачуццё трывогі і страху выклікае ў чалавека (і жывёлы) змяненне рэакцыі мачы ад нармальнай (кіслай) да шчолачнай. Рэакцыя мачы вяртаецца да нормы кожны раз, калі знікаюць прычыны, што вылікаюць трывогу і страх.

Характар ежы таксама моцна ўплывае на рэакцыю мачы (кіслотнасць або шчолачнасць). Ежа, якая ўтрымлівае вялікую колькасць бялкоў і малую колькасць вугляводаў, садзейнічае стварэнню аптымістычнага настрою арганізма, схіляе да міру і спакою, дазваляе арганізму назапашваць пажыўныя рэчывы, якія могуць скарыстоўвацца пры неабходнасці. Аднак, калі чалавек дзейнічае насуперак законам прыроды, падпарадкоўваючыся толькі ўласнаму капрызу ці жаданню, і ўжывае многа бялковай ежы замест вугляводнай, ён садзейнічае стварэнню песімістычнага настрою арганізма, рыхтуючы яго, па словах Джарвіса, «да барацьбы і паражэння».

І гэта не выпадкова. Калі людзі (а таксама жывёлы) жывуць у стрэсавых умовах і ўжываюць ежу з высокай канцэнтрацыяй бялкоў і нізкай вугляводаў, у іх нараджаецца знясіленае патомства. Парушаючы законы прыроды, бацькі тым самым парушаюць добрую спадчынную аснову арганізма дзіцяці, што адмоўна адбіваецца на яго мышачнай, нервовай і стрававальнай сістэмах. Пры нараджэнні такое дзіця мае меншую вагу і меншы памер цела. Каардынацыя дзейнасці мозгу і мускулатуры ў яго ніжэй за норму. Яго часта характарызуе разумовая недаразвітасць. Такое дзіця па сваёй прыродзе схільна «да барацьбы і паражэння», а не «да міру і спакою», яно ўваходзіць у жыццё з меншым запасам энергіі і меншымі магчымасцямі ствараць неабходныя запасы ў арганізме. У яго крыві ўтрымліваецца вялікая колькасць натрыю, і рэакцыя мачы часцей за ўсё шчолачная, а не нармальна кіслая. Калі ўсё ж дзіця будзе жыць на фоне спрыяльных умоў развіцця, то яму не будзе хапаць вынослівасці, каб дабіцца поспеху ў жыцці. Такія людзі часта хварэюць і ўвогуле зведваюць цяжкасці ў працэсе прыстасоўвання да навакольнага асяроддзя.

# ● НА ХВАЛЯХ БТ ●

**7 КРАСАВІКА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе...**
**21.00. Панарама.**
**22.25. Студыя МЭТА. Майстэрня. Уладзімір Стальмашонак.**
**23.05. НІКа.**

**8 КРАСАВІКА**

**12.55. Студыя МЭТА. «Я жыву, каб убачыць Вас...» Па вершах беларускіх паэтаў.**
**18.00. Існасць. «Чысты Чацвер».**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.35. Пазіцыя ўрада. Улада на фоне часу.**
**20.25. Гаворым па-беларуску.**
**21.00. Панарама.**
**23.40. НІКа.**
**0.05. На нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета РБ.**

**9 КРАСАВІКА**

**16.05. Дзіцячая тэлефілармонія. Знаёмства з 11-ай менскай дзіцячай музычнай школай.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.10. Тры кіты. Мастацка-публіцыстычная праграма.**
**21.00. Панарама.**
**23.10. НІКа.**
**23.35. На нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета РБ.**

**10 КРАСАВІКА**

**12.30. Роднае слова. Тэлечасопіс.**
**14.55. Старонкі беларускай песні. Р. Пукст. Рамансы і песні.**
**16.20. Тэлебом. Конкурс юных талентаў.**
**19.55. Студыя МЭТА. «Вобраз». Тэлечасопіс.**
**21.00. Панарама.**
**23.20. НІКа.**
**23.35. Велікоднае свята. Набажэнства ў касцёле Святога Роха.**

**11 КРАСАВІКА**

**14.20. Студыя «Тэлесябрына». Вялікдзень.**
**14.25. Канцэрт арганнай музыкі.**
**15.05. Вялікдзень у Брэсце.**
**16.20. Вялікдзень у Гродне.**
**17.00. Вялікдзень у розных канфесіях.**
**19.25. Данчык у Менску.**
**20.00. Панарама.**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шаварыкін.
Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак.
Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8614 паасобнікаў.
Зак. 266.

Падпісана ў друк 5.04.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.